Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 66 (117). Вільня, Серада 14 Верасьня 1927 г. Год III.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Ідэал сялянства.

„Сялянская Ніва“, як орган сялянскай партыі, праз увесь час бароніць інтэрэсы беларускага сялянства. Няма ніводнага артыкулу, няма ніводнае весткі ў нашай газэце, якія-б ня былі высьветляны з пункту гледжаньня беларускай сялянскай ідэолёгіі.

Мы, сыны вёскі, найбольш адчуваем на сабе ўсе цяжары гаротнага, амаль што нявольнічаго жыцьця малазямельнага селяніна, усе зьдзекі нам намі з боку пануючае буржуазнае клясы (пераважна абшарнікаў) і ўлады і затым найлепш разумеем, што нам патрэбна, з кім вясьці змаганьне і якою дарогаю вясьці яго, каб зьдзейсьніць Ідэалы сялянства.

Сялянства, як грамадзкая кляса, жывець у Заходняй Беларусі ў вельмі цяжкіх абставінах, здабываючы сабе сродкі на ўтрыманьне з працы рук. Але-ж каб працаваць і зарабляць сабе на кавалак хлеба, дык трэба мець варстат працы. Варстатам працы для сялянства зьяўляецца зямля. Толькі працаю на зямлі селянін можа ўтрымаць сябе і сваю сям'ю.

За часоў прыгону (паншчыны) сялянства мела на чым працаваць, але зямля, на якой яно працавала належыла не да яго, а да пана, які ня толькі распараджаўся ўсім запрацаваным прыгоннымі сялянамі дабром, але таксама распараджаўся і асобаю селяніна. Горш цяжкога палажэньня ў гэным часе для сялянства нельга і прыдумаць, бо сяляне да крыві і поту павінны былі прапаваць, а вынікі працы зьбіраў пан. Дык бачым, мала таго, каб селянін меў на чым працаваць, патрэбны яшчэ варунак, каб рэзультаты працы, у даным выпадку земляробскія прадукты, належылі да таго, хто сам працуе на зямлі. Калі зямля належыла да пана, дык ён забіраў усё, што даваў ураджай, а сяляне былі толькі нявольнікамі.

Але прыгонны лад ужо скасаваны і замест яго істнуюць іншыя спосабы гаспадараваньня гэта: спосаб вядзеньня гаспадаркі, калі зямля зьяўляецца ўласнасьцю селяніна і калі зямля зьяўляецпа агульнаю грамадзкаю ўласнасьцю, камунальнаю, ці іначай сяляне працуюць у камуне. У нас, у Заходняй Беларусі, няма зусім камунальных гаспадарак, але савецкая ўлада ў Усходняй Беларусі і ў ССРР імкнецца закладаць камунальныя гаспадаркі і ўжо шмат такіх гаспадарак залажыла. Хоць мы ня бачыліся з тымі сялянамі, якія працуюць у гэтых камунальных гаспадарках, і затым ад іх самых ня чулі ані слова аб іхным палажэньні, аднак на аснове лёгічнага разважаньня можна зрабіць пэўныя вывады. Як у прыгоннай гаспадарцы, так і ў камунальнай сяляне маюць варстат працы, працуюць, у меру сіл, у „Савхозе“. Мы ўжо ведаем, што з прыгоннай гаспадаркі сяляне за сваю працу вельмі мала атрымлівалі, бо ўсё ішло на пана, як на ўласьніка зямлі, на якой сяляне працавалі. Узьнікае пытаньне, ці з камунальнай гаспадаркі ўсе сяляне, што ў ёй працуюць, атрымліваюць увесь прадукт сваёй працы? Ясна, што не. Калі зямля не зьяўляецца ўласнасьцю тых, якія на ёй працуюць, а зьяўляецца ўласнасьцю ўсяго грамадзянства, дык кожны грамадзянін імкнецца да таго, каб мець пэўную карысьць з гэтае зямлі. Калі-б усё грамадзянства складалася выключна толькі з адных земляробаў (сялян), і зямля была грамадзкаю ўласнасьцю, дык у гэтым выпадку і прадукты працы сялянства таксама маглі-б належыць толькі да тых, якія на зямлі працуюць, г. зн., сялянства атрымала-б увесь прадукт свае працы на ральлі ў „савхозе“. Але-ж гэтага няма, кожны народ, апрача сялянства, як клясы якая працуе на зямлі, мае іншыя клясы, што працуюць на іншых варстатах працы. Ёсьць яшчэ рожныя катэгорыі работнікаў фабрычных, канцэлярскіх працаўнікоў у дзяржаўных установах, прыватных і інш. Вось усе гэтыя катэгорыі працоўных гушчаў (мінаючы дробна-буржуазныя іншыя катэгорыі жыхарства) маюць такое самае права да зямлі, як і сяляне, якія працуюць на зямлі. Пры грамадзкай і камунальнай уласнасьці на зямлю, і фабрычныя работнікі, і канторскія працаўнікі, і інтэлігэнтныя працаўнікі вольных прафэсіяў зьяўляюцца грамадакімі ўласьнікамі зямлі, хоць на ёй самі не працуюць. Вось, калі жыхары места маюць тыя самыя правы на зямлю, што і жыхары вёскі, дык ясная рэч, што жыхары места захочуць мець даход з зямлі, хоць на ёй і не працуюць. Дзеля гэтага самага пры камуне сяляне не атрымліваюць усю вартасьць свае працы, бо частка яе ідзе на карысьць працаўнікоў іншых катэгорыяў.

Зусім інакш стаіць справа, калі на зямлі селянін зьяўляецца поўным гаспадаром, калі зямля, на якой ён працуе зьяўляецца яго ўласнасьцю. У гэтым выпадку ўсё, што запрацоўвае селянін—ідзе на яго карысьць. Сяляне самі забіраюць усе прадукты, як рэзультаты працы на сваёй зямлі. Праўда, справа цэнаў на вольным рынку можа пераносіць часьць вартасьці прадуктаў земляробскай гаспадаркі на карысьць іншых клясаў і жыхараў места, але гэтая рэч, да пэўнай ступені, залежыць ад сялянства, як прадуцэнта (вытварыцеля) земляробскіх прадуктаў. Сялянства пры помачы арганізацыі можа процістаўіцца рожным непажаданым коньюктурам і ўтрымаць раўнавагу цэнаў на пэўнай ступені, пры якой ані жыхарства места, ані жыхарства вёскі не выкарыстоўвае працы іншае клясы.

Ідэалам сялянства ёсьць зямля для сялянства на ўласнасьць без права спэкуляцыі ёю. Гэты ідэал сялянства павінна здабыць бяз ніякага выкупу, пры помачы свае арганізацыі.

А. Саюзьнік.

## Аружнае паустаньне у Літве.

У мястэчку Таўроген блізка нямецкае граніцы 9 г. верасьня, аружная група людзей чалавек 60, пад камандаю капітана Майюса ахапіла Таўроген і пачала там ужо парадкавацца. Да паўстанцаў далучыліся некаторыя жыхары места, а разам, стварылі новую ўладу. Хутка ахапілі ўсе дзяржаўныя ўстановы, казначэйства з грашыма, склад з аружжам і звольнілі арыштаваных з вастрогу.

Як толькі весткі аб гэтым дайшлі да Клайпэды, дык зараз адтуль вырушыла войска, якое акружыла Таўроген. У рэзультаце стрэляніны паўстанцы пакінулі места і ўцяклі ў лес. Лес атакавала войска, якое ловіць паўстанцаў.

Літоўскія газэты пішуць, што паўстаньне зьяўлялася агульным фронтам радыкальных, апазыцыйных да ўраду, літоўскіх партыяў.

Паўстаньне з Таўрогена не пашырылася, а ў самым Таўрогене было здушана. Галоўны аматар і кіраўнік паўстаньня сацыял-дэмакрат Мікульскі забіты. Пры ім знайшліся грошы ўзятыя з таўрогенскага казначэйства.

Два паслы Паплаўскас і Кедыс уцяклі да Вільні.

На заканчэньне паўстаньня адбываюцца шмат-лічбовыя арышты. Па весткам газэт арыштавана ўсяго да 1000 чалавек у тэй лічбе 100 чал. у самым Таўрогене.

Як высьняецца, дык паўставалі тыя элементы, якія ў леташнім годзе, сучасным літоўскім урадам, у парадку перавароту, былі адхіляны ад улады.

## Вестні аб Жэневе.

Віленскі Цат, відаць сам паехаў у Жэневу, бо прыслаў карэсп. ў „Słowo“, з Жэневы.

У гэтай карэспандэнцыі пан Цат красамоўна апісвае, што, польскі „спакой“, на Сэсіі Лігі Нацыяў, Англія адразу забракавала. Францыя перш села на дзьвох крэслах, але пасьля хіцнулася ў бок Англіі ды бліжэй падсунулася да яе. Тагды Польшча ўдалася да некатарых маленькіх дзяржаваў, каб ратаваць супольна сусьветны „спакой“. Як і што здарыцца пры гэтым яшчэ і Цат ня ведаў, як пісаў карэспандэнцыю... Зоркі ў імгле, а вецярок заціх!...

Польскі „спакой“, піша пан Цат прагарэў ад таго, што Польшча затрымала дома сваіх першарадных запраўды геніяльных прамоўцаў.

І пры гэтым малюе карціну, як прыгожа і чароўна гаварылі: Вэнгерац ды Грэк. Асабліва апошні, дык гэтак захапіў прысутных, што ціха было ў салі, быццам анёлак пралецеў... Звычайна ў салі паседжань гэтак бывае крыклівa, што нельга нічога пачуці, і вось... Грэк пабіў крык і на час свае прамовы даў запраўдны спакой.

Пасьля яго прамовы ізноў пачалася „старая песьня“, так што, у часе прамовы літоўскага міністра Вальдэмараса, дык ужо нічога нельга было разабраць. Але-ж якое дзіва!... На заканчэньне Вальдэмарас атрымаў авацыйных воплескаў болей за ўсіх! І ніяк ня можа зразумець пан Цат, з якое рацыі апладзіравалі Вальдэмарасу тыя, якія зусім не маглі чуць словаў яго прамовы.

# З жыцьця Польшчы.

### Склікаьне Сэнату.

Згодна з 37 артыкулам канстытуцыі п. Прэзыдэнт дэкрэтам ад 9 г. верасьня склікае надзвычайную сэсію Сэнату, якая мае распачацца 22 г. верасьня.

### У справе сэсіі Сойму.

Адбылося паседжаньне соймавых старшынь, дзе абгаварвалася справа працы Сойму. Выказана пажаданьне, каб соймавае паседжаньне не адбылося да таго часу, пакуль Сэнат не зацьвердзіць уставу аб самараспушчэннасьці Сойму.

Намечаны плян працы Сойму гэтакі: зьмена выбарнага закону да Сойму і Сэнату, далейшы разгляд самаўрадавых уставаў і скасаваньне дэкрэту аб прэсе з заменаю адпаведнай уставаю.

### Скарбовыя даходы.

Газэты пішуць, што Польшча ў гэтым годзе за жнівень месяц выкачала падаткаў ад сваіх грамадзян на 22 мільёны болей, як за жнівень леташняга году. Асабліва „Глос Праўды“ дык зьмяшчае гэтую вестку неяк трыумфальна з вялікім вахопленьнем, стараючыся стварыць з гэтага ўражаньне, быццам гэта сьведчыць аб направе гаспадарчага палажэньня. Аднак-жа мы гэтага ня відзім. Тут прасты рахунак і вывады: падаткі павышаны, кнопка націснута мацней, ну знача і пацякло троха болей, як летась... Але ці гэта не адбілася на „здароўі“ грамадзкай гаспадаркі, дык пабачым!...

### Працэс Украінцаў у Кракаве.

15 г. верасьня мае распачацца судовая справа проці 36 Украінцаў, якія, як вынікае з акту, вінавацяцца ў здрадзе польскай дзяржаве на карысьць іншых дзяржаваў выдачай вайсковых сэкрэтаў.

Судовы разгляд мае адбыцца пры зачыненых дзьвярох і, як думаецца, працягнецца 2 месяцы.

### Аб кім „Работнік“ турбуецца.

Польская газэта „Robotnik“ яшчэ ўсё ніяк ня можа заспакоіцца. „Галодная“ пэнсія польскіх урадоўцаў увесь час турбуе паноў сацыялістаў. Думаюць яны, што сваею турботаю робяць некаму пэўную карысьць. Аднак-жа выходзіць зусім іначай.

Мы ўжо не адзін раз пісалі, што ўся справа зьяўляецца недарэчнасьцю... І праўда!...

Гумарыстычная часопісь „Муха“ зьмясьціла жарт, у якім высьмейвае ўсю гэтую справу, жартабліва пішучы, што гандляры пачуўшы аб павышэньні пэнсіі ўрадоўцам, сабраліся на сход, каб павысіць цэны на тавары ды прадукты. Пад гэтакім жартам крыецца запраўднасьць.

Але-ж што паном сацыялістам да гэтага! Ім патрэбна дэмагогія!...

## Леванполь звольнілі ад кс. Бародзіча.

„Kurjer Wileński“ даведаўся, што кс. Бародзіча адклікаюць з Леванполя, які быў місыянэрам ў справах пашырэньня і ўмацаваньня польскае веры.

Некалькі дзён таму назад быў у Леванполі Я. Э. кс. Арцыбіскуп, які на месцы разглядзеў запраўднае палажэньне рэчаў, цікавячыся да тагочаснаго працаю місіянэра з Сан-Рэма, а апошнімі часамі стаўшага вялікім пагромшчыкам праваслаўя, які задаў столькі працы браслаўскай паліцыі і адміністрацыйным уладам.

Кс. Бародзіч, не ўпусьціў апошняе магчымасьці каб пераканаць арцыбіскупа, што авантурная дзейнасьць яго, паміма таго, што выклікала столькі скандалаў, не разьмінаецца з прынцыпамі каталіцкага касьцёла і карнага кадэксу. Кс. Бародзіч для сваей абароны выкарысгаў нават і амбону.

Гаворачы да вялікае грамады прысутных у касьцеле, кс. Бародзіч зрабіўся зусім нявінным „баранкам“, як піша „Кур'ер“, ды зьвярнуўся з гэтакімі словамі:

„Над польскаю зямлёю ў Леванполі ізноў запанаваў дух Мураўёва, паліцыя перасьледуе касьцёл і яго верных капланаў“.

Бачачы, што кс. Бародзіч у сваёй прамове ўжо аж надта далёка заехаў, прысутны тут арцыбіскуп, перарваў яго і сам зьвярнуўшыся да прысутных адзначыў: што „Польшча не дзеля таго паўстала, а каталіцкі касьцёл дайшоў да права, каб сеяць нязгоду і забіваць іншыя рэлігіі. Польшча мусіць быць талеранцыйнаю. Паміж рэлігіямі павінна быць згода“.

Дык знача кс. Бародзіча няма ўжо ў Леванполі, але-ж гэтага мала. Цяпер, ня толькі па нашай думцы, але-ж і некатарых Палякаў, месца кс. Бародзічу павінна быць на Лукішках за кратамі. Ці дойдзе да гэтага? ня ведама!

Калі кс. Бародзічу ўся яго авантурная праца даруецца, дык гэта выкліча нездаваленьне сярод пераважнае большасьці, як беларускага так і польскага грамадзянства. І вось чаму!

У чацьверг 8 г. верасьня кс. Бародзіч разаслаў весткі сярод сфанатызаваных мёрскіх і леванпольскіх парахвіян аб неабходнасьці паставіць капліцу ў Чэрэсе, дзе каталікоў можна ледзьве налічыць сто асобаў. Паставіць тую капліцу кс. Бародзіч рыхтаваўся на царкоўнай зямлі тут-жа пры самай царкоўнай агарожы. Але-ж яму гэта неўдалося: не дапусьціла паліцыя, якая сабралася з некалькіх суседніх пастарункаў.

Пасьля гэтае няўдачы кс. Бародзіч стварыў скандал аб якім мы ўжо пісалі. Да таго падаем некалькі падрабязнасьцяў.

Кс. Бародзіч гвалтам, паміма недапушчэньня паліцыяй, уламаўся на праваслаўны магільнік каб там паставіць капліцу. Магільнік быў агароджаны калючым дротам, дык адна жанчына нат пакалечыла нагу. Пасьля гэтага здарэньня, пасадзіўшы гэтую жанчыну на воз, кс. Бародзіч узяўся спавядаць яе і масьціў сьв. алеям, пры гэтым распусьціў плёткі, што жанчыну параніў паліцыянт штыком. Усё гэта тварыў кс. Бародзіч дзеля таго, каб паганьбіць уладу, якая, на гэты раз, (адзіны гэта выпадак) не дазволіла польскім авантурнікам захапіць гвалтам праваслаўную царкву.

У часе гэтае авантуры арыштавана двох авантурнікаў якім пагражае 112 арт. карнага кадэксу, а гэта пахне 4 — 6 гадамі вастрогу. Яны ў часе скандалу хацелі адабраць у паліцыянта карабін.

Абодва арыштаваныя сказалі, што яны ўсё тое што рабілася, дык тварылі па нагавору кс. Бародзіча.

Знача, ўва ўсіх леванпольскіх скандалах вінават кс. Бародзіч, дык і трэба, каб яму гэта добрым не сталася.

# НАВІНЫ.

**— Літвіны ў нашай „няволі“.** Літоўская газэта ў польскай мове „Жыце Люду“ „абураецца“ на нас за тое, што мы захапілі ў „няволю“ нешта 70 Літвіноў з лічбы самаўрадаўцаў. Пры гэтым „Жыце Люду“ нас на'т быццам вінаваціць у некарэктнасьці. Дык вось, дзеля „карэктнасьці“, калі „Жыце Люду“ мае дадзеныя аб сваіх самаўрадах, дык няхай возьме тыя 70 Літвіноў сабе. Мы іх „звальняем з няволі“. Няхай „Жыце Люду“ будзе спакойна, што за гэтыя некалькі дзён „няволі“, ім нічога не сталася, яны астаюцца тымі самымі.

**— Дзіўныя „Курвіленцы“.** Ёсьць жыцьцёвыя праўды, якіх ніколі не павінны забываць. Да лічбы гэтакіх праўдаў можна залічыць правіла: „ня трэба тварыць мучанікаў!“ „Не ўясьняла, відаць, справы амэрыканская ўлада, якую паслугу аказала яна ваяўнічаму міжнароднаму камунізму казьнячы Сакко і Ванцэцьці“. Гэтакія словы спатыкаем на старонках „Кур'ера Віленскага“. Але-ж відаць, тое, што зразумела „Кур,еру“ ў адносінах да Амэрыканцаў, дык незразумела ў аднасінах да сябе.

Запраўды, дзіўны гэты сьвет! Тыя людзі, якія гэтак добра разумеюць памылкі Амэрыканцаў, ніяк ня могуць зразумець сваіх уласных памылкаў. Гаворачь Амэрыканцам, не тварыць мучанікаў, а самыя твораць іх, ды не адзінкамі, а проста „пачкамі“. Узяць, хоць-бы беларускіх паслоў ці іншых выдатных вязьняў, з пасярод Беларусаў, дык чым, як не „мучанікамі“ зьяўляюцца яны для Беларусаў, дык чаму-ж за іх не заступіцца „Кур'ер?“ Запраўды, дзіўныя і наіўныя гэтыя „Курвіленцы“!

**— „Ківамігі“.** Умястоўскі „Дзень“ гэтак раз'ехаўся, што прызнаў спадара Янку Станкевіча запраўдным Беларусам, робячы пры гэтым „ківамігі“, што быццам „Сял. Ніва“ гэтакую годнасьць ад спадара адхіліла. Што можа быць дурней ад гэтае заявы Умястоўскага?! Хіба-ж усім добра ведама, што Станкевіч Беларус, дык якая-ж можа быць яшчэ аб гэтым гутарка! Але-ж будучы Беларусам, ён зьяўляецца і спадаром місюгіным, дык чаму-ж гэтую годнасьць „Дзень“ не абгаварыў?

Калі ў „навучоным спадары“ мы прызнаём Беларуса-місюгіну, дык наадварот, у самым Умястоўскім мы ня відзім Беларуса, бо каб ён быў Беларус, дык ня браў-бы ад казны грошы на тамаваньне і зьністажэньне Беларускага Нацыянальнага Адраджэньня.

*Ніколі не зьністажай газэты, прачытаўшы дай яе суседу!*

## „Kurjer Wileński“ і Літва.

„Kurjer Wileński“, як і іншыя віленскія польскія газэты вельмі цікавіцца Літвою. Апошнімі тыднямі, ён на'т далучае дадаткі. „Przegląd Litewski“, дзе падрабязна і старанна піша і тлумачыць розныя праявы літоўскага жыцьця ў іх уласнай незалежнай дзяржаве. Ён часта находзіць там многа нястачаў, крызысаў і г. д. і ўсё гэта, па яго словах, здараецца з Літвою ад таго, што Літва ня хоча падпарадкавацца Польшчы, толькі Польшча быццам можа направіць Літву.

На апошні кангрэс нацыянальных меншасьцяў у Жэнэве — прускія Літвіны падалі мэморыял, у якім жаляцца на ўціск і зьдзекі з боку Немцаў. Гэта таксама „балюча“ адчуў і „Kurjer Wileński“, бо пасьвяціў гэтай справе вялікі перадавы артыкул.

Бяручы за падставу сваіх вывадаў заявы літоўскіх газэтаў „Кур'эр“ піша, што гэтакі благі лёс спадкаў Літвіноў у Прусіі, дзеля таго, што Літвіны не працівяцца Немцам, што вядуць угадовую палітыку, замест таго, кабісьці аглядаючыся на гістарычную сьцежку. А гэта сьцежка, як ведама вядзе Літву падпарадкаваньня Польшчы.

Гаворачы аб зьдзеках Немцаў над Літвінамі „Кур'ер“ піша, што літоўская мова нідзе не дапускаецца, толькі ў касьцёлы, г. зн. што нідзе Літвіны ня могуць карыстацца сваею моваю апрача ў касьцёле (разумеецца ў сямейным ды дамашнім абыходзе таксама).

Мы не бярэмся судзіць справу нямецка-літоўскіх адносінаў, але-ж нам дзіўна, што „Кур'ер“ пралівае сьлёзы па Літвінах у Прусіі, а робіць у сябе яшчэ горш, як робіцца там. Зараз прывядзем прыклад. Літвіны ў Прусіі ня могуць нідзе карыстацца роднаю моваю акрамя ў касьцеле, ну, а Беларусы? А Беларусам дык і ў касьцеле забаронена!... За родную мову беларускія ксяндзы ў Польшчы пазбаўляюцца парахвіяў і высылаюцца за межы Беларусі!

За што сядзіць у катаржным макутоўскім вастрозе ксёндз В. Гадлеўскі? — Ці-ж не за тое, што карыстаўся беларускаю моваю ў касьцеле і вучыў парахвіян любіць і шанаваць найвялікшы боскі дар чалавеку — родную мову?!

Наперад можна ведаць, што „Кур'ер“ мае на гэта апраўданьне. Ён можа сказаць: то-ж карыстаецеся моваю ў Віленскай меставай Радзе! Але, праўда, карыстаемся... Але хто там слухае беларускую мову? — Як-хто! Як гаворыць сэнатар Багдановіч, дык слухае радны Крук, а як гаворыць гр. Крук, дык слухае — сэн. Багдановіч! Ну і толькі...

Але, калі-б гаварыў ксёнд у касьцеле, дык слухаў-бы вялікі натоўп! О, дык не, туды барані Бог дапусьціць беларускую мову. Дык і выходзіць, што Немцы забараняюць Літвінам гаварыць палітоўску там, дзе няма каму слухаць гэтай мовы, а там пазваляюць дзе слухае грамада (ў касьцеле). У нас-жа робіцца наадварот: Багдановіч і Крук у сьценах меставай Рады гаварэце, а ксёндз з парахвіянамі — ані руш!...

„Тут, дык і сабака зарыта“! Калі „Кур'ер“ ганьбіць тое, што далёка ад яго, што не датыкае яго, чаго ён ня бача і прапускае міма „вуха“ тое, што робіцца ў яго перад вачыма, дык якая-ж цана яго славам? Каму і навошта яны патрэбныя?

У сваім літоўскім аглядзе „Кур'ер“ зьмяшчае даныя, што за адзін год на Літве павялічылася прыгоднай да земляробства зямлі на 85 гэктараў. Скуль-жа яна ўзялася? Пэўна, што ад мэліёрацыі (направы няўдобнай зямлі).

Рахуючы ды камбінуючы цыфры сёлетняга ўраджаю „Кур'ер“ прыходзіць да вынікаў, што Літва можа прадаць збожа на 250 мільёнаў літаў. У гэтакім выпадку Польшча павінна-б прадаць заграніцу на тры мільярды літаў!... Але здаецца, Польшча зрабіць гэта не гатовіцца.

Ад „Кур'ера“ дазналіся мы, што Літва не знае ў замежным гандлі дэфіцыту, а ў грамадзкім жыцьці—безрабоцьця.

Пішам мы гэта дзеля таго, што „Кур'ер“, творачы ў літоўскай дзяржаве бяду, не аглядаецца на тое, што бяда, і то ў многа разоў большая, пануе там, дзе сам „Кур'ер“ гаспадаруе. Творыць на Літве бяду,—як быццам у Польшчы —рай і толькі.

Пішам дзеля таго, што літоўскаму пытаньню прысьвечана аж $3^1/_2$ старонкі (з шасьці) друку і ўсе ў адным кірунку: цьвердзячы, што—прападзе Літва, калі ня будзе аглядацца на гістарычную сьцежку... Але, ці направіцца Польшча, аглядаючыся на сваю гісторыю? Вось пытаньне!... Можна падумаць, што гэтыя апошнія словы мы зьмяшчаем дзеля таго, каб „ратаваць“ Польшчу!... Ня ведаю!... Але-ж калі-б Польшча, замест таго, каб пільнавацца гістарычнае сьцежкі, стала на сучасную, дык пэўна-б... замест палянізацыі і калёнізацыі Беларусі, дала-б ёй волю—вольнасьць, а гэта было-б карысна і Польшчы і Беларусі. Беларусь не траціла-б сіл на змаганьне, а Польшча на стрыманьне яго.

